РАЁННАЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ

№ 45 (7858) Заснавана ў красавіку 1931 года СЕРАДА, 14 чэрвеня 2000 г. Цана 25 руб.

VIII сесія раённага Савета дэпутатаў

## Асноўныя напрамкі работы аграпрамысловага комплексу

***Як паведамлялася,на VIII-й сесіі раённага Савета дэпутатаў разгледжана пытанне аб асноўных напрамках работы аграпрамысловага комплексу па стабілізацыі аграрнай вытворчасці ў раёне і забеспячэнню насельніцтва прадуктамі харчавання. З дакладам выступіў першы намеснік старшыні райвыканкама, начальнік райсельгасхарчу Віталь ГРЫШАНАЎ.***

У цяперашні час, сказаў прамоўца, аграпрамысловы комплекс раёна, як і рэспубліку ў цэлым, знаходзіцца ў вельмі цяжкіх умовах, а АПК займае больш як 70 працэнтаў у структуры валавой вытворчасці і па праву лічыцца адной з вядучых галін народнай гаспадаркі.

У бягучым годзе назіраецца далейшае падзенне сельскагаспадарчай вытворчасці. Да аб'ектыўных фактараў можна аднесці складаныя ўмовы надвор'я, зніжэнне ўрадлівасці глебы, знос асноўных фондаў. Гэта ўжо адмоўны баланс вытворчага патэнцыялу аграпрамысловага комплексу. Суб'ектыўнымі фактарамі трэба, урэшце, прызнаць ігнараванне эканамічных законаў – закона вартасці, які пацягнуў дысбаланс вытворчых затрат і цэн на прадукцыю, закона попыту і прапаноў, выклікаўшага дыспрапорцыю у структуры вытворчасці і збыту прадукцыі, закона ўбываючай аддачы, паказваючага на абмежаванасць эканамічных рэсурсаў і іх нядзольнасць да поўнай узаемазамянясльнасці.

Калгасы раёна знаходзяцца ў крайне складаным фінансавым становішчы. На сённяшні дзень картатэка гаспадарак складае 479 млн. рублёў, у тым ліку доўг бюджэту 38 млн. рублёў, за электраэнергію – 265 млн. рублёў. Сярэднямесячная заработная плата аднаго працуючага ў сельскай гаспадарцы складае ўсяго 15 тысяч рублёў, што ў 2-3 разы ніжэй, чым у будаўніцтве і прамысловасці. І гэта пры тым, што мы не можам своечасова аддаць калгаснікам іх заробленыя грошы. Такая сітуацыя склалася ў асноўным з-за дрэнных пагодных умоў. У выніку замаразкаў і засухі гаспадаркі ў 1999 годзе недабралі прадукцыі на суму 762 млн. рублёў, у т.л. збожжа на суму 493 млн. рублёў, бульбы – 201 млн. рублёў, рапсу – 68 млн. рублёў. Усё гэта ўскладняе развіццё сельскагаспадарчай вытворчасці. Вось чаму ў гэтай няпростай сітуацыі задача кадраў райвыканкама, кіраўнікоў і спецыялістаў гаспадарак, абслугоўваючых арганізацый не разгубіцца, не апусціць рукі, знайсці галоўнае звяно ва ўсім ланцужку паўсядзённых клопатаў, ад якіх залежыць эфектыўнасць работы ўсяго аграрнага комплексу.

Праведзеная Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкам нарада, прысвечаная задачам рэспубліканскіх і мясцовых органаў кіравання па павышэнню эфектыўнасці работы аграпрамысловага комплексу, пацвердзіла выбраную раней стратэгію і вызначыла тактыку вываду сельскай гаспадаркі з зацягнуўшагася крызісу.

Падтрымліваючы ўсе склаўшыеся формы гаспадарання на зямлі, у першую чаргу буйнатаварныя калгасы і саўгасы, дзяржава бярэ курс на ўдасканальванне арганізацыйна-эканамічнага механізму АПК, яго тэхнічнае пераўзбраенне, занальную спецыялізацыю, рост прадукцыйнасці палёў і ферм.

За 5 месяцаў 2000 года калгасамі раёна надоена 4050 тон малака, што на 7 тон ніжэй узроўню мінулага года. Сярэдні надой малака ад адной фуражнай каровы склаў 674 кілаграмы або на 95 кілаграмаў менш да ўзроўню мінулага года. У маі ўдалося скараціць разрыў да мінус 20 кілаграмаў.

*(Працяг на 2-3 стар.)*

## ДОШКА ГОНАРУ

***На нарыхтоўцы кармоў для грамадскай жывёлы вызначаюцца:***

**ЕМЯЛЬЯНЦАЎ Віталь Уладзіміравіч** – механізатар калгаса "Парыжская камуна", які на трактары МТЗ-80 з КУН-10 засціртаваў 193 тоны сена.

**ПРЫХОДЗЬКА Аляксандр Міхайлавіч** – механізатар гэтай гаспадаркі на трактары МТЗ-80 з ПРФ-750 запрэсаваў 183 тоны сена.

**ШУМАНСКІ Эдуард Пятровіч** – механізатар ДРБУ-130, які заняты нарыхтоўкай кармоў у калгасе "Парыжская камуна", на трактары МТЗ-80 з КДН-210 скасіў травы на 200 гектарах.

**ЗАЙЦАЎ Алег Іванавіч** – механізатар калгаса "Парыжская камуна" на трактары МТЗ-80 з ГВР-6 згроб сена на 316 гектарах.

**ГЕРАСІЧКІН Мікалай Уладзіміравіч** – механізатар калгаса "Радзіма" на трактары МТЗ-82 з КРН-2,1 скасіў травы на 120 гектарах.

**ЗАЙЦАЎ Мікалай Аляксеевіч** – механізатар гэтага ж калгаса на трактары МТЗ-82 з ПРФ-145 запрэсаваў 70 тон сена.

***На зграбанні сена вызначыўся***

**ІСАЕЎ Васіль Сяргеевіч** – механізатар калгаса "Радзіма", які на трактары МТЗ-82 з ГВР-6 згроб сена на 200 гектарах.

**НОСІКАЎ Міхаіл Фёдаравіч** – механізатар калгаса імя Калініна на трактары МТЗ-80 з КРН-2,1 скасіў 90 гектараў.

**ЛЕБЕДЗЕЎ Міхаіл Іванавіч** – механізатар гэтай жа гаспадаркі на трактары МТЗ-80 з ПРФ-750 запрэсаваў 60 тон сена.

**МАІСЕЕНКА Аляксандр Васільевіч** – механізатар калгаса "Прагрэс" на трактары МТЗ-82 з КДН-210 скасіў травы на 123 гектарах.

***Мікалай Іванавіч Грышчанка ў гэтыя дні займаецца нарыхтоўкай кармоў для грамадскай жывёлы. Для яго гэта звычайная справа, бо кожны год ён выконвае яе на трактары МТЗ-80 у агрэгаце з ПРФ-750. Нягледзячы на тое, што сёлета травастой рэдкі, механізатар свае нормы перавыконвае. Гэта гаворыць аб тым, што з адказнасцю адносіцца да пастаўленых перад ім задач. Не толькі веды, а і вопыт падказваюць Мікалаю Іванавічу, як своечасова і якасна выканаць сваю работу. А калі непагадзь? Усё роўна М. І. Грышчанка не сядзіць без справы. Ён прыстасоўвае да трактара МВУ-6 і займаецца падкормкай пашы.***

***У калгасе "Прагрэс" Грышчанка лічыцца адным з лепшых механізатараў.***

*На здымку: Мікалай ГРЫШЧАНКА.*
*Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.*

## ПАСЯДЖЭННЕ ГАСПАДАРЧАГА СУДА

У Касцюковічах адбылося адкрытае выязное пасяджэнне гаспадарчага суда Магілёўскай вобласці. На ім разгледжаны іск прадпрыемства "Касцюковічынафтапрадукт" да 5 гаспадарак раёна – калгасаў "Расія", "Баронькі", "Праўда", "Кранштат", "Ленінскі шлях" – аб спагнанні запазычанасці за пастаўленыя гаруча-змазачныя матэрыялы.

Суд задаволіў патрабаванні істца ў частцы спагнання сум асноўнага доўгу ў межах 1,5 мільёна рублёў. У спагнанні пені судом адмоўлена з-за неабгрунтаванасці пратэрміноўкі іскавых патрабаванняў у гэтай частцы.

Пасля пасяджэння суддзя Юрый Кірэеў даў кансультацыю прысутным аб парадку звяртання ў гаспадарчы суд. У зале прысутнічалі старшыні калгасаў, кіраўнікі некаторых прадпрыемстваў і арганізацый, галоўныя бухгалтары. Яны задалі цікавячыя іх пытанні, на якія Ю. Кірэеў даў кваліфікаваныя адказы.

**Віктар ЦІХАНАЎ.**

## ГОСЦІ РЭДАКЦЫІ

*Рэдакцыю раённай газеты наведала група творчых работнікаў з Мінска. Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Антон Бархаткоў – наш зямляк. Нарадзіўся ён у вёсцы Шчаглоўка, скончыў яшчэ ў даваенны час Бялынкавіцкую школу. Антон Стэфанавіч – удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Быў знаёмы са знакамітым мастаком В. Бялыніцкім-Бірулем. Працаваў у яго творчай майстэрні ў Маскве і на дачы "Чайка". Чатыры персанальныя выставы Антона Бархаткова былі наладжаны ў Мінску, а таксама за мяжой – у Бельгіі, Італіі, Галандыі. 16 палотнаў мастака знаходзяцца ў фондах раённага краязнаўчага музея. Яны таксама перыядычна выстаўляюцца для агляду наведвальнікаў. Антон Бархаткоў расказаў аб некалькіх эпізодах са сваёй творчай дзейнасці і жыцця, пажадаў калектыву рэдакцыі ісці ў нагу з часам, быць сапраўднымі патрыётамі маляўнічага кутка ўсходняй Магілёўшчыны.*

*Алесь Пісьмянкоў пачынаў свой творчы шлях у раённай газеце. Зараз працуе галоўным рэдактарам газеты "Літаратура і мастацтва". Нарадзіўся паэт у Бялынкавічах. Аўтар кніг вершаў "Белы Камень", "Журавель над студняй". За кнігу "Чытаю зоры" Алесь Пісьмянкоў удастоен прэміі Ленінскага камсамола, ён таксама ўдастоен літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова.*

*Аб сваіх творчых планах і задумах расказалі намеснік галоўнага рэдактара газеты "Л і М" Павел Вараб'ёў, і пісьменнік, майстар жанра падарожнага нарыса, аўтар некалькіх зборнікаў і рамана "Пушча" Віктар Карамазаў.*

**Віктар БАРОЎСКІ.**

## Выпісвайце і чытайце "ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ"!




***Паважаныя чытачы!***

Шмат розных перыядычных выданняў прапаноўваецца сёння вам. Цяжка з'арыентавацца ў іх моры, выбраць адно або некалькі па душы. Раённая ж газета ў нас адна. І, вядома ж, у ёй асвятляюцца падзеі і факты, якія датычаць нашай Касцюкоўшчыны. Многім з вас, безумоўна, цікава ведаць аб іх. Таму і не здраджваеце вы сваёй раёнцы -- рэгулярна выпісваеце яе. Калектыў рэдакцыі шчыра ўдзячны такім падпісчыкам. Удзячны за тое, што, нягледзячы на фінансавыя цяжкасці, вы застаецеся з намі.

*Напамінаем, што падпіска на раённую газету "Голас Касцюкоўшчыны" на другое паўгоддзе працягваецца. Аформіць яе можна ва ўсіх аддзяленнях сувязі, у грамадскіх распаўсюджвальнікаў друку. З радасцю зробяць гэта і паштальёны.*

**Кошт падпіскі на паўгоддзе 1944 рублі, на квартал -- 972, на месяц -- 324 рублі.** Згадзіцеся, што гэта не так і дорага.

Аформіўшы падпіску, вы зможаце кожны тыдзень у сераду і суботу атрымліваць раёнку. А калектыў рэдакцыі зробіць усё залежачае ад яго, каб газета была змястоўнай і цікавай.

***Заставайцеся з намі!***

VIII сесія раённага Савета дэпутатаў

# АГРАПРАМЫСЛОВАГА КОМПЛЕКСУ

была прымусіць задумацца кіраўнікоў спецыялістаў гаспадарак, як у сёлетнім годзе нарыхтаваць кармы ў той колькасці, каб у лютым-сакавіку не купляць іх у сваіх суседзяў. Усім было рэкамендавана ўбраць першы ўкос, падкарміць угоддзі і, пры добрым травастоі, атрымаць другі ўкос траў, але большасць кіраўнікоў выкарысталі ўгнаенні на падкормку яравых культур і засталіся без траў.

Кіраўнікам калгасаў неабходна ўдзяліць належную ўвагу ўборцы саломы, яе прэсаванню з дастаўкай да ферм. Многія раёны вобласці практыкуюць закладку саломанажа. Уся салома звозіцца ў ямы, дабаўляецца брага, ушчыльняецца маса, укрываецца плёнкай – атрымліваецца выдатны корм.

Была праведзена абарона мерапрыемстваў кожнага калгаса па нарыхтоўцы кармоў. У мэтах хуткай арганізацыі ўборачных работ у раёне створана 6 міжгаспадарчых атрадаў. Плануецца нарыхтаваць 36700 тон кармавых адзінак, або не менш 24 ц.к.адз. у разліку на ўмоўную галаву жывёлы, з іх травяністых — 15 цэнтнераў кармавых адзінак.

Выкананне гэтых задач у цяперашніх складаных эканамічных умовах немагчыма без высокага ўзроўню механізацыі ўсяго комплексу сельскагаспадарчых работ. Машынна-трактарны парк гаспадарак налічвае 400 адзінак трактароў розных марак і мадыфікацый, 120 збожжаўборачных камбайнаў, 180 грузавых аўтамабіляў, а таксама шмат іншай тэхнікі і агрэгатаў, патрабуючых пастаяннага тэхнічнага абслугоўвання і своечасовага рамонту.

Практыка паказвае, што для правядзення сезонных палявых работ у аптымальныя агратэхнічныя тэрміны неабходна падтрымліваць тэхнічную гатоўнасць машынна-трактарнага парку на ўзроўні 85-90 працэнтаў. Каб дасягнуць такіх паказчыкаў, патрабуецца выканаць рад умоў. Па-першае, забяспечыць гаспадаркі дастатковым фінансаваннем на набыццё новай тэхнікі і запасных частак, па-другое, арганізаваць планавае тэхнічнае абслугоўванне, асабліва энерганасычаных трактароў у кожнай гаспадарцы.

Улічваючы вялікую запазычанасць калгасаў, выдзяляемыя сродкі з бюджэту паступаюць непасрэдна на прадпрыемствы, якія абслугоўваюць сельскую гаспадарку, рамонтныя заводы дазваляюць рабіць замену толькі асноўных вузлоў машын – рухавікоў, каробак перадач. Сродкаў на іншыя запасныя часткі не выдзяляецца. У выніку гатоўнасць тэхнікі не перавышае 50 працэнтаў. Для вырашэння пытанняў тэхнічнага абслугоўвання наяўнай тэхнікі толькі палова гаспадарак у раёне маюць дастатковую для гэтага матэрыяльную базу. Гэта калгасы "Прагрэс", "Дуброва", імя Карла Маркса і іншыя. Не арганізаваўшы работу пунктаў тэхнічнага абслугоўвання ў кожнай гаспадарцы, мы будзем зноў сутыкацца з фактамі заўчаснага выхаду са строю трактароў, іншай тэхнікі і затрачваць многія мільёны рублёў на іх аднаўленне.

За 1999 год у калгасах спісана трактароў і сельскагаспадарчых машын на суму 44,5 млн. рублёў. У кожнай гаспадарцы не надта складана арганізаваць разборку спісанай тэхнікі. Мы павінны пайсці па шляху стварэння абменных тэхнічных пунктаў, дзе захоўваліся б прыгодныя да далейшага выкарыстання вузлы і агрэгаты ад спісанай тэхнікі. Адпаведна патрабуецца арганізаваць бухгалтарскі ўлік гэтых запасных частак. У радзе калгасаў такія абменныя пункты ёсць, а стварэнне іх ва ўсіх гаспадарках дазволіць нам больш аператыўна вырашаць многія пытанні, звязаныя з рамонтам і аднаўленнем тэхнікі.

У бягучым годзе сіламі ААТ "Райаграпрамтэхэнерга" ад наўляецца 45 збожжаўборачных камбайнаў, з іх 28 адрамантавана. Астатнія камбайны, з 119 патрабуючых рамонту, аднаўляюцца ў саміх гаспадарках. На жаль, якасць рамонту застаецца па-ранейшаму нізкай. Не ўпрыгожвае, мякка кажучы, інжынерную службу ААТ "Райаграпрамтэхэнерга" такі факт, калі камбайн з калгаса імя Калініна, "адноўлены" гэтай арганізацыяй, праехаў толькі палову шляху да гэтай гаспадаркі.

У перспектыве мы павінны стварыць на прадпрыемствах горада пастаянныя рамонтныя месцы для збожжаўборачных і кормаўборачных камбайнаў, каб на працягу асенне-зімовага перыяду рамантаваліся амаль усе камбайны, асабліва патрабуючыя складанага рамонту. Магчыма будзем прыцягваць да гэтай работы арганізацыі дарожнікаў, ПМК-90 і іншых, якія маюць дастаткова моцную рамонтную базу і не загружаны ў зімовы перыяд.

Яшчэ дастаткова нараканняў з боку гаспадарак на работу комплексных механізаваных атрадаў, створаных пры ААТ "Райаграпрамтэхэнерга". Адмоўна ўплывае іх слабая матэрыяльная база, ёсць пралікі ў арганізацыі работ. Гэтыя атрады забяспечваюць выкананне механізаваных сельскагаспадарчых работ у слабых калгасах, але з аснашчэннем іх неабходнай тэхнікай могуць быць задзейнічаны не толькі ў калгасах, а і аказваць паслугі насельніцтву. Жыхары вёскі і многія гараджане маюць зямельныя ўчасткі, на якіх вырошчваецца сельгаспрадукцыя. Без дапамогі тэхнікі тут не абысціся. Але заканамернае пытанне: як не ва ўрон калгасу аказаць такую дапамогу ў апрацоўцы зямлі? На ворыве ў гаспадарках выкарыстоўваецца ў асноўным энерганасычаная тэхніка і прымяняць яе на прысядзібных участках не толькі не эканамічна, але і злачынна. Зыходзячы з гэтага, плануем уключыць прысядзібныя ўчасткі ў севазварот гаспадарак з тым, каб прымяніць на іх тэхніку, пачынаючы з ворыва, сяўбы, догляду за пасевамі і заканчваючы ўборкай. Само насельніцтва будзе прыцягвацца толькі для забеспячэння насенным матэрыялам і ўборкі ўраджаю. Усе іншыя работы павінна ўзяць на сябе гаспадарка, зразумела, за невысокую плату. Для абслугоўвання жылога дома неабходна пакінуць столькі зямлі, колькі можна апрацаваць без прымянення тэхнікі.

З аднаўленнем тэхнікі непарыўна звязана матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне. Нам удалося ў некаторай ступені захаваць адладжаны механізм пастаўкі запасных частак цераз сістэму агразабеспячэння, мець рамонтны фонд вузлоў і агрэгатаў машын на абменна-тэхнічным пункце. Пры дастатковым фінансавым забеспячэнні пытанні пастаўкі тэхнікі і запасных частак цераз агразабеспячэнне вырашаюцца вельмі хутка. За 1999 год і першы квартал г.г. цераз абменны тэхнічны пункт агразабеспячэння рэалізавана гаспадаркам 24 рухавікі і 39 каробак перадач на трактары К-700, амаль столькі на трактары Т-150 і 33 рухавікі на трактары маркі МТЗ. Усе рухавікі і каробкі перадач адноўлены на мотарамонтных заводах вобласці. Якасць рамонту ў асноўным наладжана, аднак ёсць пытанні да абласных службаў. Да прыкладу, у калгасе імя Калініна пастаўлены рухавік на трактар К-700 выйшаў са строю ў дзень устаноўкі. Прадстаўнікі Магілёўскага маторарамонтнага завода больш двух месяцаў высвятлялі прычыну паломкі і ступень адказнасці бакоў, а трактар увесь гэты час прастойваў. У цяперашні час пытанне знята, але такі факт меў месца і, мяркуючы па ім, кіраўніцтву рэмзавода ёсць над чым папрацаваць.

Усё часцей практыкуецца ў раёне набыццё тэхнікі па лізінгу. У мінулым годзе па лізінгу атрымаў тры трактары калгас "Прагрэс" і два трактары калгас "Дуброва", у бягучым годзе гэтай формай карысталіся калгасы "Кранштат" і "Ленінскі шлях", атрымаўшы па аднаму трактару. Як правіла, па лізінгу набываюць трактары тыя, хто можа своечасова яго аплочваць. Вывад тут відавочны.

Але прымяненне новай тэхнікі не гарантуе якасць сельскагаспадарчых работ, і ў тым мы можам пераканацца на прыкладзе многіх нашых гаспадарак. Аб якой эканоміі паліва можна весці размову, калі пасля ворыва, часта на ўздыбленым полі, даводзіцца выконваць бясконцую колькасць апрацовак дыскамі, культыватарамі і іншымі агрэгатамі, каб прывесці яго ў належны стан. Будзем вучыцца араць усе разам. Для гэтага плануем правесці раённы семінар, дзе пакажам, як трэба весці ворыва, а потым арганізуем конкурс на лепшага аратага раёна.

У бліжэйшыя гады неабходна мадэрнізацыя існуючага парка плугоў за кошт аснашчэння іх паўвінтавымі адваламі, вугладзьмальнікамі, перадплужнікамі, рознымі прыстаўкамі. Асноўу парка плугоў да 2005 года павінны складці плугі для гладкага ворыва (паваротныя і абаротныя). Рэсурс элементаў плуга павінен складаць не менш 80-140 гектараў.

Вялікая дапамога з боку дзяржавы аказана раёну ў сёлетнім годзе. Пад веснавыя палявыя работы было выдзелена за кошт сродкаў Дзяржкамчарнобыля 34 трактары маркі МТЗ, з іх 11 маркі 1221, паспяхова папоўніўшых клас трактароў Т-150. Прынятыя меры станоўча адбіліся на ходзе палявых работ.

Нягледзячы на рад прымаемых мер, нам не ўдалося навесці належны парадак на машынных дварах. Паўсюдна захламленасць металаломам, спраўныя агрэгаты стаяць побач з няспраўнымі, спісаная тэхніка не разбіраецца, прыгодныя вузлы не здаюцца ў склад. Гэта характэрна для калгасаў "Забычанне", "Расія", не кажучы ўжо аб калгасе імя Калініна і некаторых іншых. Дзе лепш, дзе горш, але да сапраўднай культуры на мехдварах нам яшчэ далёка. Улічваючы сказанае, ва ўсіх гаспадарках неабходна правесці праўленні калгасаў, на якіх разгледзець пытанне аб правядзенні кожны тыдзень, у пятніцу, санітарных дзён на машынных дварах гаспадарак.

Усё большая ўвага ўдзяляецца ў раёне пытанням энергазберажэння, укараненню ў сельскагаспадарчую галіну новых тэхналагічных распрацовак. Прымяненне на сяўбе новых трактароў, сеялак СПУ-6, камбінаваных агрэгатаў АКШ з чызельным культыватарам, падрыхтоўка глебы пад сяўбу культыватарамі з прымяненнем стрэльчатых лап, а таксама вырашэнне арганізацыйных пытанняў па кантролю за расходаваннем гаруча-змазачных матэрыялаў дазволіла паменшыць расход дызельнага паліва па раёну на 900 тон і бензіну на 90,2 тоны, па параўнанню з папярэднім годам.

Сур'ёзную заклапочанасць выклікае няздольнасць раду калгасаў аплаціць расход электрычнай энергіі. Нягледзячы на прымаемыя меры і адтэрміноўку плацяжоў, запазычанасць гаспадарак за электраэнергію на пачатак года склала больш як 200 млн. рублёў. Бягучы расход электраэнергіі ў гэтым годзе спрабавалі аплаціць толькі 6 гаспадарак у сумах не перавышаючых 5-10 працэнтаў ад утварыўшайся запазычанасці. На май сума доўгу за электраэнергію склала 52 млн. дэнамінаваных рублёў. Пакідае жадаць лепшага работа ААТ "Касцюковіцкі малаказавод". За студзень-май 2000 года заводам было вытварана прадукцыі на суму 205,1 млн. рублёў, што склала 85,8 працэнта да ўзроўню мінулага года, пры гадавым прагнозе 100 працэнтаў. Выпуск спажывецкіх тавараў склаў 174,4 млн. рублёў, што на 20 працэнтаў ніжэй 1999 года. Цэльнамалочнай прадукцыі было вытварана 431 тона або 66 працэнтаў да аналагічнага перыяду мінулага года. Зніжэнне аб'ёму вытворчасці спажывецкіх тавараў звязана з адгрузкай малака за межы раёна, аб'ём якіх за 5 месяцаў склаў 801 тону і павялічыўся на 47 працэнтаў да ўзроўню мінулага года, у тым ліку за май на 20 працэнтаў. Разам з тым, малаказавод не можа забяспечыць якаснай прадукцыяй у шырокім асартыменце насельніцтва раёна. Перыядычна не выконваюцца заяўкі гандлю на малочную прадукцыю. У той жа час, маюцца факты адмаўлення гандлюючых прадпрыемстваў ад малака біклажнага і вагавага тварагу. Звязана гэта з адсутнасцю фасаванай прадукцыі ў дастатковай колькасці. Кіраўніцтвам малаказавода не прымаецца належных мер па вышукванню сродкаў для закупу фасовачнага матэрыялу.

У заключэнне дакладчык зазначыў, што праблем, недахопаў і нявырашаных пытанняў у аграпрамысловым комплексе яшчэ многа. Ад вырашэння іх у значнай меры будзе залежыць не толькі эканамічнае становішча гаспадарак, а і ўзровень жыцця нашых людзей.

# З ВЫСТУПЛЕННЯЎ УДЗЕЛЬНІКАЎ СЕСІІ

**Старшыня калгаса "Новы быт" Віталь ШЫШОЎ:**

— Праблем зараз перад вяскоўцамі хоць адбаўляй. Па-старому сёння працаваць нельга. Але і разбураць усё да асновы недапушчальна. Многія прыходзяць да высновы, што трэба захаваць буйную сельскагаспадарчую вытворчасць. Толькі, на жаль, тут шмат яшчэ недасказанага. Невядома, як гэта зрабіць. Таму невыпадкова мала здольных людзей застаецца ў вёсцы, дзе неабходна, як кажуць, выкладвацца без выхадных з малай заработнай платай.

Як можна развіваць калектыўную гаспадарку, калі цэны на гаруча-змазачныя матэрыялы і запчасткі для сельгасмашын растуць з кожным днём. На маю думку, варта смялей ісці па шляху змянення адносін да ўласнасці. Напрыклад, калектыўную маёмасць ацаніць па рынкавай вартасці, выпусціць акцыі, а затым пусціць іх у свабодны продаж. І нельга баяцца, што інвестар скупіць гэтыя акцыі. Ён створыць акцыянернае таварыства (адкрытае або закрытае). З'явіцца гаспадар, які будзе зацікаўлены ў тым, каб больш прадукцыі атрымліваць з зямлі пры найменшых затратах.

**Упраўляючая аддзялення Аграпрамбанка Тамара ЧУКАВА:**

— Фінансавае становішча прадпрыемстваў і арганізацый аграпрамысловага комплексу нашага раёна можна ахарактарызаваць як крайне цяжкае. З-за кліматычных умоў склаўся недабор прадукцыі раслінаводства і жывёлагадоўлі. Аб якіх прыбытках можна сёння гаварыць, калі бутэлька мінеральнай вады каштуе ў два разы даражэй малака. Калі няма кармоў, то не будзе і жывёлагадоўчай прадукцыі. Таму нядзіўна, што самая нізкая зарплата ў працаўнікоў гаспадарак.

На сённяшні дзень неплацяжы па калгасах раёна складаюць 304 мільёны рублёў у картатэках. Пратэрмінаваная запазычанасць па зарплаце не пагашана за люты адзінаццацю гаспадаркамі, сакавік – дванаццацю, красавік – чатырнаццацю.

Першага ліпеня наступае тэрмін пагашэння адтэрмінаваных пазык, атрыманых на правядзенне вясенне-палявых работ, кормаўборкі і зернеўборкі ў 1999 годзе. І каб справа не даходзіла да гаспадарчага суда, запазычанасць трэба пагашаць.

**Дырэктар ААТ "Касцюковіцкае райаграпрамтэхэнерга" Міхаіл ПАТАПЕНКА:**

— Выконваючы сваю асноўную задачу па абслугоўванню аграрнага сектара, наш калектыў уносіць пэўны ўклад у вытворчасць сельгаспрадукцыі. На прадпрыемстве створаны механізаваныя атрады па апрацоўцы глебы і нарыхтоўцы кармоў. Яны ўкамплектаваны энерганасычанымі трактарамі і кормаўборачным комплексам УЭС-2-250 "Палессе". У цэлым вытворчасць работ, аказваемых калгасам, па аб'ёмах дасягае 80 працэнтаў і складае аснову эканомікі прадпрыемства.

Складанасці мінулага года ў поўнай меры адбіліся на фінансавым становішчы і нашага прадпрыемства. Узраслі неплацяжы калгасаў, а гэта выклікае мноства праблем. Не хапае сродкаў на набыццё неабходных матэрыялаў і камплектуючых для вядзення рамонту сельгасмашын і абсталявання, што ў канчатковым выніку ўплывае на якасць і тэрміны рамонту.

Праграмай па падрыхтоўцы поўнакамплектнай тэхнікі ў сёлетнім годзе прадугледжана адрамантаваць: 45 збожжаўборачных камбайнаў; 22 адзінкі трактароў Т-150, К-700; 14 адзінак кормаўборачнай тэхнікі. Вялікі аб'ём гэтай работы ўжо выканан.

Чарговая, не менш важная задача, — гэта ўдзел у нарыхтоўцы кармоў. Кормаўборачным атрадам неабходна нарыхтаваць іх не менш чым 8000 тон. Работа распачата. Яна разгорнута таксама па падрыхтоўцы збожжасушыльных комплексаў у гаспадарках.

Вышукваюцца ўсе магчымыя крыніцы фінансавання для вырабу лемяшоў. Першыя партыі будуць ужо выкарыстаны на падрыхтоўцы глебы пад восеньскую сяўбу і ўздыме зябліва.

**Старшыня раённага спажывецкага таварыства Валерый МАРОЗАЎ:**

— На сённяшні дзень райпа ў стане на дастатковым узроўні забяспечыць усё насельніцтва раёна таварамі першай неабходнасці. За 4 месяцы г.г. рэалізавана тавараў на суму 939,7 мільёна рублёў, што ў 3,1 раза вышэй, чым у адпаведным перыядзе мінулага года. Прададзена на душу насельніцтва тавараў на суму 35585 рублёў.

Аднак, у сувязі з нізкай пакупніцкай здольнасцю насельніцтва, ростам цэн на тавары і паслугі, несвоечасовай выплатай зарплаты, у бягучым годзе знізілася рэалізацыя на душу насельніцтва мяса і птушкі на 0,7 кілаграма, каўбасных вырабаў і вяндліны – на 0,8 кілаграма, кансерваў малочных і мясных, крупы. Разам з тым, узрасла рэалізацыя макаронных вырабаў, кандытарскіх тавараў.

Праўленнем райпа прымаюцца меры па стабілізацыі спажывецкага рынку, вышукванню тавараў, якіх не хапае. Закупляліся свежамарожаная рыба, мука, фрукты, масла расліннае, крупа. Акрамя гэтага, каапнарыхтпрамам і камбінатам грамадскага харчавання вытварана тавараў за 4 месяцы года на суму 150 мільёнаў рублёў.

Населеныя пункты, дзе няма стацыянарнай гандлёвай сеткі, абслугоўваюцца 2 аўталаўкамі. Тавараабарот за 4 месяцы г.г. склаў 9, 7 мільёна рублёў. Страты ад работы аўтамагазінаў – 262 тысячы рублёў.

Перад калектывам райпа сёння стаіць мноства праблем. Большая частка пастаўшчыкоў патрабуе папярэднюю аплату. Адсутнічаюць такія тавары, як камбікорм, мука жытняя, на працягу 1 квартала не было солі і малочных кансерваў. Не ў поўным аб'ёме выконваліся заяўкі на малочную прадукцыю ААТ "Касцюковіцкі малаказавод".

Цяжкае фінансавае становішча арганізацыі, недахоп уласных абаротных сродкаў і заёмных сродкаў таксама негатыўным чынам адбіваюцца на рабоце арганізацыі.

**Дырэктар ААТ "Касцюковіцкая райсельгасхімія" Сяргей ВІННІКАЎ:**

— На дасягненне эфектыўнасці работы ў земляробстве і жывёлагадоўлі накіраваны ўвесь комплекс агрохімічных работ. Забяспечанасць мінеральнымі ўгнаеннямі ў сёлетнім годзе была адносна нядрэнная, асабліва па фосфару і калію. Пад зерневыя культуры ўнесена ў разліку на гектар па 181 кілаграму NPK.

Для атрымання ўраджаю важная роля адводзіцца своечасоваму правядзенню комплекса хімічных ахоўных работ па барацьбе з пустазеллем і шкоднікамі раслін. Такую работу неабходна правесці на плошчы 12600 гектараў, праведзена яна на 9807 гектарах.

Пад збожжавыя забяспечанасць гербіцыдамі складае 100 працэнтаў, для хімпраполкі кукурузы – 50 працэнтаў. Для буракоў і рапсу гербіцыдаў пакуль няма. Асноўная прычына – адсутнасць грашовых сродкаў для іх набыцця.

Ужо зараз бачна, што пасевы кукурузы ў некаторых калгасах маюць павышаную засмечанасць пустазеллем, што значна знізіць ураджайнасць.

У апошнія гады райсельгасхімія значна знізіла аб'ёмы работ па прычыне зносу машынна-трактарнага парку, а таксама яго змяншэння. Цяжкае эканамічнае становішча аб'яднання адмоўна адбіваецца на працоўнай дысцыпліне, стабільнасці кадраў. Тым не менш, цяжкасцей хапае ва ўсіх (запазычанасць калгасаў складае 26 мільёнаў рублёў), аднак пастаўленыя задачы трэба выконваць.

x x x

*Па абмеркаванаму пытанню сесія раённага Савета дэпутатаў прыняла рашэнне.*

